# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 46 14 лістапада 1991 г. Выдаецца з 1955 г.
(2240) Цана 8 кап.

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

## ПЕСНЯ ДЛЯ ВЕРЫ, або МАРШРУТ НЬЮ-ЙОРК—СТРЫЕЎКА

**ЧАСТКА ПЕРШАЯ**

Ніяк не магу сабе даравацьь, што, быўшы ў Нью-Йорку, не знайшла магчымасці наведаць прыватны офіс, дзе працуе дантыстам наша зямлячка родам з Гродзеншчыны Вера Заморская, якая мае рэпутацыю спецыяліста экстра-класа і адпаведна — вялікую кліентуру. (Дарэчы, прафесія дантыста ў Амерыцы лічыцца прэстыжнай). Напэўна ж, у гэтым офісе і медыцынскае абсталяванне, і якасць абслугоўвання — усё па вышэйшых амерыканскіх стандартах. Няблага было б усё ж убачыць на ўласныя вочы.

Сама Вера знешне — эталон сучаснай дзелавой дамы: кароткая стрыжка, спартыўны стыль адзення; энергічная, упэўненая ў сабе. «Жанчына іншага свету, — адзначыла я пра сябе,— дагледжаная, самастойная, забяспечаная. Якія ў яе могуць быць праблемы? Хіба мы можам знайсці агульную мову? Хіба ў нас ёсць нейкія кропкі сутыкнення?» — неяк з бояззю паглядала я ў першы вечар нашага знаёмства на сяброўку Алы Орса-Рамана.

Неўзабаве, зусім нечакана, давялося трапіць да Веры, так бы мовіць, у экспрэс-госці. Тая запрасіла знянацку, без папярэджвання, патэлефанаваўшы нам з самай раніцы.

— Усё скварчыць на патэльні,— папрасіла-папярэдзіла яна, — давайце хуценька, без цырымоній.

Не маргнуўшы вокам мы імгненна ўлезлі ў «Таёту».

Катэдж на Лонг Айлендзе, у якім жыве Вера Заморская з дзвюма дочкамі, нечым нагадвае жытло (калі можна гэтак сказаць пра двухпавярховы асабняк) Алы Орса-Рамана: дзве гасціныя, некалькі іншых пакояў, гараж. Уздоўж дома, як своеасаблівая аранжарэя, разрасліся і буйна пладаносяць розныя сарты памідораў: дробненькія, як вінаград, і вялікія —розных колераў і формаў. На лужку перад домам узняліся прыгажуны сланечнікі...

Мусіць, не такая ўжо про справа — даглядзець усю гэту вялікую гаспадарку, пашкадавала я Веру. Хаця вырошчваць тыя ж самыя памідоры ў яе няма ніякай неабходнасці, бо ўсяго ўдосталь і нават болей таго — у супермаркетах. Хіба дзеля забавы. Альбо... А з'явілася здагадка, гэта проста праявілася моцная сувязь з зямлёй, спадчынная сувязь, ад продкаў-сялян, што спрадвеку жылі на зямлі, якая была ім карміцелькай.

У тую раніцу нам ніяк не выпадала пагаварыць. Вера, як простая вясковая кабета, шлёпала басанож па кухні, абсталяванай па апошняму слову тэхнікі, частавала нас яечняй са скваркамі, рознымі пакупнымі каўбаскамі, іншымі амерыканскімі прысмакамі. Назіраючы за гэтай пешчанай, бясстраснай, як мне здалося на першы погляд, жанчынай, я пачала разумець, што моцна памылілася. Вера жартавала, смяялася, а я бачыла ў яе вачах затоены сум, нейкі нявыказаны боль, ціхую спагадлівасць і нават пакорлівасць.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



**Сёлетні юбіляр — Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Яго асноўныя карпусы ўзвышаюцца на адной з прыгажэйшых плошчаў беларускай сталіцы.**
**(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 3-й стар.).**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

## ГАНАРЫМСЯ ВАМІ, СУРОДЗІЧЫ

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!
Перасылаю 20 амэрыканскіх даляраў на падпіску газэты «Голасу Радзімы» на 1992 год, спадзяюся, што гэта пакрые кошт, а калі не, дайце мне знаць. Робіце вельмі паважную справу для сваёй Бацькаўшчыны, на што яна чакала доўгія гады.
Жадаю вам карыснай працы.
З пашанай

**Д. КУРЫЛОВІЧ.**

Канада.

***

Жнівеньскія дні ў СССР і Беларусі ўздымалі пачуццё страху за лёс нашых суродзічаў у Беларусі. Кожны ставіў сабе пытанне: ці адбудзецца без разліву крыві ў Беларусі? І так прыйшоў дзень 25 жніўня—нядзеля. Дзень гэты запамятаецца ўсімі беларусамі свету. Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. А гэта сталася мірным шляхам, ані адна кропля крыві не пралітая.

Палітычная вытрымка і памяркоўнасць у дзеянні нашых братоў і сясцёр у Беларусі дала добры вынік. Так далей! Мы, вашы браты з-за мяжы, ганарымся вамі за ваш вычын. Будзем памагаць вам у цяжкай палітычнай і эканамічнай сітуацыі, чым будзем магчы.

**Ф. БЕРНІКОВІЧ.**

Седліска—Польшча.



**На здымку — адкрыццё IV Рэспубліканскай канферэнцыі Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Беларускае таварыства «Радзіма»), якая адбылася ў апошні дзень кастрычніка. У справаздачным дакладзе старшыні прэзідыума таварыства народнага мастака Міхаіла Савіцкага ўтрымліваліся канкрэтныя факты карыснай дзейнасці гэтай арганізацыі. Вось толькі адзін: у маі і верасні 1991 года па ініцыятыве нашага земляка з ФРГ М. Мельніка было сабрана і дастаўлена ў адрас таварыства каля 40 тон медыкаментаў, вітамінаў, медыцынскага абсталявання на суму больш 5 мільёнаў марак ФРГ.**

**Справаздача аб рабоце канферэнцыі будзе змешчана ў наступным нумары.**

БЕЛАРУСЬ — КЫРГЫЗСТАН

## АДЗІН АДНАМУ НАСУСТРАЧ

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Кыргызстан Насырдзін Ісанаў і Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч падпісалі міжурадавае пагадненне аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. У ім абодва бакі заяўляюць, што гандлёва-эканамічныя сувязі паміж рэспублікамі будуць ажыццяўляцца перш за ўсё прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі і іншымі гаспадарчымі суб'ектамі і органамі дзяржаўнага кіравання ў рамках іх кампетэнцыі і на аснове ўзаемнай выгады. Усе разлікі і плацяжы будуць праводзіцца па цэнах, якія забяспечаць узаемныя інтарэсы. Парадак узаемаразлікаў за прадукцыю і аказаныя паслугі можа вызначацца двухбаковым пагадненнем.

Асобным артыкулам агаворана, што бакі будуць садзейнічаць стварэнню сумесных прадпрыемстваў, у тым ліку і з партнёрамі, якія размешчаны па-за тэрыторыямі рэспублік. Будуць прымацца меры, якія прадухіляць ажыццяўленне гаспадарчымі суб'ектамі рээкспарту прадукцыі, што пастаўляецца адзін аднаму.

РАШЫЎ ПАРЛАМЕНТ

## КОЛЬКІ БУДЗЕ СВЯТАЎ

На сесіі Вярхоўнага Савета абмяркавана пытанне аб устанаўленні святочных дзён у Рэспубліцы Беларусь. Пасля доўгіх спрэчак і дэбатаў старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч зачытаў спіс свят, прапанаваных як ягонай камісіяй, так і апазіцыяй БНФ.

Парламенцкае «за» без асаблівых на гэты раз пярэчанняў атрымалі: 1 студзеня — Новы год; 7 студзеня — праваслаўныя Каляды; 8 сакавіка — спачатку прапаноўвалася як Дзень маці, але у канчатковым выніку гэта — Дзень жанчын; 1 мая — Свята працы; 9 мая — Дзень Перамогі; 27 ліпеня — Дзень незалежнасці; 25 снежня — каталіцкія Каляды; апошняя субота кастрычніка (а сёлета, дарэчы, першая — лістапада) — Дзяды. Па календарах праваслаўнай і каталіцкай канфесій будуць цяпер нерабочымі радаўніцы і Вялікадні.

КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

## ГАСЦЯЦЬ У КРАКАВЕ

Каля сарака партрэтаў XVII—XIX стагодд[illegible], якія некалі знаходзіліся ў нясвіжскім зам[illegible] гродзенскім манастыры, а з часам перасяліліся ў Дзяржаўны мастацкі музей рэспублікі, цяпер дэманструюцца на выстаўцы ў Кракаве, у будынку былога каралеўскага замка. У ліку іх нямала партрэтаў дынастыі князёў Радзівілаў.

У мінулым годзе міністры культуры Беларусі і Польшчы заключылі дагавор аб культурным супрацоўніцтве. У Мінскім мастацкім музеі былі выстаўлены габелены, слуцкія паясы, розныя тканіны з польскіх музеяў. А партрэты з Беларусі да сярэдзіны снежня будуць гасціць у Кракаве.

РЭЛІГІЯ

## НА СРОДКІ ВЕРНІКАЎ

У Талачыне распачаты рамонт Свята-Пакроўскай царквы, якая заснавана ў 1753 годзе. Роўна 50 гадоў не мянялася тут падлога, не рабіліся іншыя аднаўленчыя работы.

І вось на сродкі вернікаў, якіх становіцца ўсё больш і больш, вырашана прывесці ў парадак храм Божы. У царкву праведзена паравое ацяпленне, паркетам выкладзена салея. Замест прагнілых дошак падлога высціляецца мармурам. І пры гэтым не спыняецца служба ў святыя і выхадныя дні. Яна праходзіць у падсобным памяшканні царквы.

ШТО НАС ЧАКАЕ

## САМ-НАСАМ З БЕСПРАЦОЎЕМ

Каму перш за ўсё «свеціць» беспрацоўе ў нашай рэспубліцы? Тэндэнцыю добра характарызуюць лічбы: 25 працэнтаў цяперашніх беспрацоўных — людзі да 25 гадоў; 12 працэнтаў — ад 26 да 30-ці; 24 працэнты — ад 31 да 41-го; 22,5 працэнта — ад 41 да 50-ці; 16,5 працэнта — звыш 50 гадоў.

На жаль, больш за ўсіх шанцаў згубіць свае рабочае месца менавіта ў маладых людзей, і перш за ўсё — у жанчын.

З АРХІВА

## ПІЛСУДСКІ — БЕЛАРУС?

У галоўным архіўным упраўленні Рэспублікі Беларусь знойдзены дакумент, які абвяргае існуючую думку, што вядомы палітычны дзеяч Польшчы 20-х—30-х гадоў Юзаф Пілсудскі быў палякам. Захаваўся пратакол допыту дзевятнаццацігадовага Пілсудскага па справе «першамартаўцаў», датаваны 10 сакавіка 1887 года. У гутарцы з падпалкоўнікам Стрававым тады мала каму вядомы юнак сцвярджаў, што ён ад нараджэння Іосіф Іосіфавіч, дваранін і па нацы[illegible]льнасці беларус.

— Гэта навіна сапраўды сенсацыйная, — лічыць начальнік галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхальчанка. — І хоць справа не ў нацыянальнасці таго ці іншага палітычнага дзеяча, думаю, наша знаходка дапаможа даследчыкам па-новаму паглядзець на дзейнасць Пілсудскага і яго палітыку ў адносінах да Савецкай Расіі. Сёння ў энцыклапедыях можна прачытаць, што Юзаф Пілсудскі быў настроены варожа адносна Краіны Саветаў. Можа, прычына гэтай варожасці ў нацыянальных каранях?

Дарэчы, вядома, што большую частку беларускай і польскай інтэлігенцыі Юзафу Пілсудскаму ўдалося схіліць на свой бок менавіта дзякуючы выдатнаму веданню беларускай мовы. Гісторыкі таксама сцвярджаюць, што выступаць перад аўдыторыяй ён лічыў за лепшае на беларускай мове.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У Мастах на Гродзеншчыне ствараецца беларуска-італьянскае прадпрыемства па выпуску мэблі. Яно будзе вырабляць у год 15 тысяч кухонных камплектаў.

● Амаль паўсотні мінчанак толькі ў першы дзень прыёму звярнулася ў школу гувернантак, якую арганізавала гарадское аддзяленне Банка ідэй. Перспектыва вабіць: ёсць магчымасць трапіць за граніцу.

ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ПРОДКАЎ

## «БЕЗ ПРАДЗЕДАЎ НЯМА МЯНЕ»

**2 лістапада адбыліся Дзяды — дзень памяці продкаў, усіх тых, хто жыў на нашай шматпакутнай беларускай зямлі. Тое, што ў той дзень адбылося ў многіх гарадах і вёсках Беларусі, выклікае спадзяванні: надыходзіць час, калі мы не будзем дзяліць памёршых на лаяльных і нелаяльных, калі кожны будзе вольны аддаць ім даніну памяці.**

**Мітынгам-рэквіемам ля будынка рэспубліканскага КДБ пачаліся Дзяды ў Мінску. Тут выступілі былыя палітзняволеныя 30—50-х гадоў, народныя дэпутаты рэспублікі, свяшчэннаслужыцелі. Леглі кветкі да сімвалічнай каплічкі, устаноўленай каля будынка КДБ, адкуль пачынаўся трагічны шлях тысяч нявінных людзей.**

**Затым удзельнікі мітынгу адправіліся ў Курапаты, дзе прайшоў урачысты малебен: сотні свечак запалілі людзі ля Крыжа на месцы расстрэлаў ахвяр рэпрэсій. Вечарам Беларускі фонд культуры запрасіў мінчан у Дом літаратара. Тут гучалі памінальныя песні ў выкананні камернага хору «Унія». Удзельнікі вечара разам з акцёрамі студэнцкага тэатра пад кіраўніцтвам Мікалая Казачонка памянулі сваіх продкаў.**

**Дзяды вярнуліся да нас. І будзем спадзявацца, што кожны праняседзе ў сваім сэрцы запаведзь: «Без прадзедаў няма мяне».**

**НА ЗДЫМКАХ: у час мітынгу-рэквіема каля будынка КДБ; Дзяды ў Доме літаратара.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**






ПРЫНЯТЫ НОВЫ ЗАКОН

# Я—ГРАМАДЗЯНІН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**СЁМАЯ СЕСІЯ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА ПРЫНЯЛА ЗАКОН «АБ ГРАМАДЗЯНСТВЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ», АБ ЯКІМ ДЭПУТАТЫ ГАВАРЫЛІ ЯШЧЭ НА ПЕРШАЙ СЕСІІ. НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА АБ АСНОЎНЫХ ЯГО ПАЛАЖЭННЯХ АДКАЗВАЕ СТАРШЫНЯ КАМІСІІ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫХ АДНОСІНАХ МІХАІЛ СЛЯМНЁЎ.**

**— Міхаіл Аляксандравіч, хто, згодна з законам, будзе лічыцца грамадзянінам Беларусі?**

— Усе жыхары рэспублікі, незалежна ад нацыянальнай, расавай прыналежнасці і ведання беларускай мовы (аднак не трэба забываць, што беларуская — дзяржаўная мова і вывучыць яе жыццё ўсё роўна прымусіць), якія пастаянна пражываюць на момант прыняцця дакумента на яе тэрыторыі.

**— Што ўключае ў сябе паняцце «якія пастаянна пражываюць»?**

— Само па сабе яно даволі складанае, і дэпутаты доўга ламалі коп'і наконт гэтага. Пакуль галоўны крытэрый — пастаянная прапіска. Аднак гэты прававы інстытут ужо адмірае, таму ў пастанове аб парадку ўвядзення закона ў сілу мы даручылі Прэзідыуму Вярхоўнага Савета ў самыя кароткія тэрміны канкрэтызаваць пералік пастаянна пражываючых на Беларусі.

**— Ці прадугледжана магчымасць атрымання беларускага грамадзянства жыхарамі іншых рэспублік або іншаземцамі?**

— Так, але для гэтага ім трэба даць абавязацельства паважаць і выконваць Канстытуцыю і законы суверэннай Беларусі, ведаць дзяржаўную мову ў межах, неабходных для нармальных зносін, мець на тэрыторыі рэспублікі законную крыніцу існавання і жыць тут не менш 7 гадоў.

**— Лёс раскідаў сотні тысяч суайчыннікаў па ўсяму свету. Па розных прычынах, хто добраахвотна, хто па прымусу ў розныя часы пакінуў Радзіму. Ці могуць эмігранты стаць грамадзянамі Беларусі?**

— І яны, і іх патомкі атрымалі магчымасць набыць беларускае грамадзянства без заліку 7-гадовага пражытачнага цэнзу.

Хацеў бы адзначыць яшчэ адзін вельмі гуманны бок новага Закона. Па прычыне зноў жа гістарычных катаклізмаў за межамі рэспублікі апынуліся вялікія групы беларусаў (я маю на ўвазе нашых суайчыннікаў на Беласточчыне, Смаленшчыне, Віленшчыне і г. д.), якія ніколі не жылі пастаянна на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, але лічаць сябе і па духу, і па крыві беларусамі. Цяпер яны могуць стаць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь на тых жа ўмовах, што і эмігранты.

**— Хто і калі можа быць пазбаўлены беларускага грамадзянства?**

— Ніхто і ніколі.

**— Якіх правоў будуць пазбаўлены асобы без грамадзянства?**

— Гэты пералік будзе фарміравацца па меры прыняцця важнейшых законаў, разглядаемых парламентам. Але ўжо сёння чалавек, які не мае беларускага грамадзянства, не можа стаць Прэзідэнтам Беларусі; для яго будуць устаноўлены пэўныя абмежаванні пры прыватызацыі і атрыманні ў прыватную ўласнасць зямлі.

**— Найважнейшы атрыбут грамадзяніна любой краіны — пашпарт. Ці атрымаем мы пашпарты грамадзян Рэспублікі Беларусь?**

— У перспектыве — абавязкова. Пакуль жа сведчаннем асобы грамадзяніна Беларусі часова будзе служыць агульнасаюзны пашпарт.

**— І апошняе пытанне. Калі Закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь» уступіць у сілу?**

— Праз дзесяць дзён з дня яго апублікавання. Парламентарыі ўжо даручылі ўраду да 1 снежня гэтага года прадставіць Вярхоўнаму Савету план яго рэалізацыі.

Гутарыў Вацлаў БАГДАНОВІЧ.

(Газета «7 дней»).

З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# СУСТРЭЧА З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ

Калі пакінуў Яе ў 17 гадоў, а пабачыў у 64—прычым пабачыў вельмі коратка, сьпешліва—дык уражаньні, зразумела, будуць і глыбокія—на рэшту жыцьця—і павярхоўныя. Некаторыя зь іх вельмі выразныя, вострыя, амаль фізычныя. Перш-наперш — адчуваньне задавольненасьці: споўнілася нарэшце жаданьне, што было ўжо зусім пахаванае, яшчэ раз пабачыцца з роднымі, з Краем, а найбольш з тэй малой Бацькаўшчынай, якая засталася ў снох, пра якую кажа песьня—«забыць цябе ня маю сілы». Ёсць у Натальлі Арсеньневай радкі з 1945 году:

**Блакітная, далёкая Радзіма,**<br>**калісь—штадзённы хлеб,**<br>**а сяньня—толькі сон,**<br>**мы вернемся, чакай,**<br>**хай хворымі, старымі,**<br>**а вернемся!**<br>**Так дай нам Кон!**

Сон збыўся, Кон даў! Ці можа лепш сказаць: мы ўзялі ў Кона? Бо-ж само сабой, кажуць, нічога не даецца. Як-бы там ні было, чаканьне, жаданьне, прага і праца прывялі да роднага парогу, да адыходнага пункту.

Менску я ніколі ня бачыў, ні старога, ні новага. Гэта было маё першае спатканьне са сталіцай. І выйшла штосьці накшталт каханьня зь першага пагляду. Пасьля праезду праз Маскву, дзе наш гасьцінны й прадпрыймальны суродзіч прафэсар Аўген Шыраеў абвёз нас з братам па цэнтры гораду перад тым як пасадзіць у цягнік на Баранавічы (брат Аркадзь, які жыве ў Баранавічах, прабыўшы месяц у Нью-Ёрку, вёз мяне паказваць Бацькаўшчыну), Менск паўстаў перад мной чысьцейшым за саюзную сталіцу, зелянейшым, прасторнейшым і мілейшым, бо мяне чакала ў ім, я прадчуваў гэта, столькі добрых, сардэчных людзей. Калі я паглядаў на Менск праз вакно гасьцініцы «Юбілейная», у якой мяне разьмясьцілі як госьця АН БССР, удзельніка Міжнароднага кангрэсу беларусістаў, калі прыглядаўся да ягоных праспэктаў і плошчаў з аўтамабіляў Аляксея Кудрэйкі й Сяржука Сокалава-Воюша, на памяць прыходзілі словы майго брытанскага сябры Гая Пікарды, які пісаў нядаўна ў «Беларусе», што сваім выглядам Менск можа паспрачацца зь любой эўрапейскай сталіцай.

Затое Баранавічы і мой родны Мір, дзе давялося правесьці па адным дні без начаваньня, прыгнялі мяне сваім вонкавым выглядам, сваёй недагледжанасьцю, што выплывае зь відавочнай нястачы матар'яльных сродкаў. У Баранавічах і ў Міры вуліцы вузейшыя як у Менску, тут усё навідавоку. Дый, пэўна-ж, правінцыя, глыбінка ня маюць ані такое ўвагі з боку міністэрстваў, ані тых рэсурсаў.

Асабліва жахнуўся я ад Міра. Мястэчка, якое засталося ў маёй памяці меней-больш добраўпарадкаваным, з брукаванымі вуліцамі, базарнай плошчай, абкружанай крамамі, з царквой і касьцёлам, прызямлілася цяпер зьмізарнелым, зморшчаным, вялікім сялом з калдобістымі вуліцамі, па якіх аўтамабілісту трэба ўмела выкручвацца, каб праехаць, не засеўшы ў яме. Усё, што засталося ад «майго» Міра, гэта цудоўны замак, які гадамі ўжо стаіць апутаны рыштаваньнямі, чакаючы рамонту з вуліцамі мястэчка на рэстаўрацыю. Але мастоў праз рэчку Міранку, па якіх ехалася ў Стоўбцы і ў Гародзей, я ўжо не пабачыў, іх няма, няма ставу, млына, і сама рэчкаператварылася ў зарослую канаву.

У Менску на прыняцьці пасьля заканчэньня кангрэсу беларусістаў была нагода пазнаёміцца й пагутарыць зь міністрам культуры сп. Вайтовічам. Гаварылі зь ім пра Мірскі замак, пра Мір. Як можна аднаўляць замак, не парадкуючы мястэчка?—пытаўся я ў міністра. Замак мог-бы быць прываблівым турыстычным аб'ектам, генэратарам валюты. Але-ж яго нельга паказваць замежным наведнікам, калі побач зь ім—такая запушчанасць, такое гаспадарчае нядбальства.

Сп. Пётр Краўчанка, міністар замежных спраў БССР, які таксама быў на прыняцьці, нагадаў, што на 1995-6 гады прыпадае 500-годзьдзе Мірскога замку, помніка архітэктуры сусьветнага значэньня, і сказаў, што робіцца захады, каб да гэтае юбілейнае даты прывесьці ў належны стан і замак, і мястэчка. Дай Божа!

Беларусь мае цудоўныя краявіды. У Мір мы ехалі зь Менску «алімпійкай», аўтастрадай, пабудаванай да Алімпіяды 1980 году. Вёз нас сваім аўтамабілем гасьцінны й самаахвярны прыяцель, паэт Сяргей Панізьнік. Была нядзеля, Сёмуха, сонечны дзень, сьвежая ранішняя прахаладзь. Дарога гладкая, прасторная—дзьве аднакірункавыя лініі ў адзін бок, дзьве ў другі, разьдзеленыя шырокай прамежнай паласой. Паабапал аўтастрады—раскошныя краявіды, вачэй не адарваць: палеткі, лясы, гаі ўва ўсіх адценьнях зялёнае гамы, усё абмытае [illegible]дным сонцам і атуленае л[illegible] блакітнай сінявой неба. Глядзіш і думаеш: які патэнцыял прыгажосьці й багацьця затоены ў гэтых прасторах! Калі-б гаспадарыла на іх уласная, свабодная рука...

Сустрэча на Бацькаўшчыне была ня толькі з [illegible]ндшафтам фізычным, але й [illegible]льтурным, духовым. І тут напрошваецца паралель да мірскіх вуліцаў — культурныя калдобіны, запушчанасьць, калецтва нацыі. Сваё занядбанае і чужое не апанаванае. Раздвоенасьць у мове, у культуры, у псыхалёгіі, у сьветаглядзе. Выкрыўленая сьведамасьць хоча аднаго, а падсьведамасьць, гены нагадваюць пра сваё. У адрачэньні, адчужэньні ад родных каранёў—міжвольная зьнявага памяці продкаў, якія змагаліся за іншыя, за свае ідэалы, за беларушчыну—пакутавалі за яе пад Польшчай, расплочваліся жыцьцём пад бальшавікамі і пад Немцамі. Ляжыць недзе ў Курапатах і мой дзядзька Аляксей, рэдактар віленскай газэты «Беларуская Справа», які ўцёк з польскага пекла і трапіў у бальшавіцкае.

Зразумела, здрада продкам мае пад сабой і аб'ектыўныя прычыны: дзеці не вінаватыя, што іх пазбавілі роднае мовы, выкрывілі разуменьне сябе самых і мінуўшчыны свайго народу. Але тым больш вінаватыя старэйшыя, калі яны не задумваюцца над сутнасьцяй свае бездакназнасьці за фармаваньне маладога пакаленьня.

На шчасьце, ня ўсе паддаліся культурнаму нявольніцтву. Довадам гэтаму сяхрод усяго іншага і Міжнародны кангрэс беларусістаў, што адбыўся ў Менску 25—27 травеня і які стаўся веxавой падзеяй у сёньняшнім працэсе беларускай кансалідацыі, гуртаваньня адраджэнскіх сілаў. Міжнародны кангрэс беларусістаў паказвае на паглыбленьне гэтага працэсу, паказвае, што Беларусь усё мацней заяўляе аб праве на сваю багатую гістарычную спадчыну, на паўніню свае культуры, на сувэрэнныя права распараджацца ўсім сваім дабром. Нацыя ўсё больш пачынае разумець, што толькі такім чынам можна дамагчыся доўгачаканае дэмакратычнае свабоды.

**Янка ЗАПРУДНІК.**

ЮБІЛЕЙ УНІВЕРСІТЭТА



**Адзначыў сваё 70-годдзе Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Ён узнік на пачатку існавання Савецкай Беларусі, у цяжкім і галодным 1921 годзе. Яго першымі слухачамі былі сяляне, рабочыя, чырвонаармейцы. З іх пачыналася новая беларуская інтэлігенцыя, якой было наканавана несці святло навукі ў масы малаадукаванага ці непісьменнага народа. Універсітэт рыхтаваў і рыхтуе навуковыя кадры. З яго сцен выйшла шмат вядомых акадэмікаў, пісьменнікаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў.**

**Сёння БДУ — адзін з трох універсітэтаў, што працуюць у нашай рэспубліцы. На дванаццаці факультэтах займаецца амаль 16 тысяч студэнтаў, па 83-х спецыяльнасцях рыхтуе навукоўцаў аспірантура. Распрацоўкі вучоных трох навукова-даследчых інстытутаў, якія створаны пры універсітэце, маюць вялікае практычнае і навуковае значэнне, выпускнікі БДУ працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі.**

**Дасягненняў шмат, імі можна было б ганарыцца, але, на жаль, сёлетні юбілей быў не вельмі радасным, не было гучных віншаванняў, ганаровых грамат і каштоўных падарункаў.**



**Груз праблем абцяжарвае і жыццё храма навукі, не даюць прадыхнуць праблемы. Не хапае кваліфікаваных выкладчыкаў, ужо шмат гадоў не хапае памяшканняў для заняткаў студэнтаў, для нармальнай працы, не хапае грошай.**

**Да гонару выкладчыкаў і, студэнтаў, можна сказаць, што, нягледзячы ні на што, яны працягваюць працу на карысць Адраджэння Бацькаўшчыны. Іх веды вельмі патрэбны ў адноўленым свабодным грамадстве.**

**НА ЗДЫМКАХ: у адной з аўдыторый універсітэта; да выкладчыцкай работы ў сябе на радзіме рыхтуецца на кафедры ядзернай фізікі і электронікі аспірант з Лівіі Саад АТЫЛ. Каля прыбораў ядзернай спектраметрыі Наталля КАРАЧУН.**

**Фота І. ЮДАША.**

# АДКАЗ БЕЛАРУСІ НА ЗАЯВУ Б. ЕЛЬЦЫНА

Сесія беларускага парламента даручыла старшыням эканамічных камісій падрыхтаваць праект пастановы ў сувязі з выступленнем Прэзідэнта Расіі Б. Ельцына на З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР.

Сказанае расійскім Прэзідэнтам асабліва па лібералізацыі цэн, уводу сусветных цэн на сыравіну, узбударажыла ўсю Беларусь. Эканоміка рэспублікі, па сутнасці, цалкам і поўнасцю «прывязана» да расійскай сыравіны. Напрыклад, работа такіх індустрыяльных гігантаў, як БелаўтаМАЗ, Мінскае трактарабудаўнічае аб'яднанне, ды і многіх іншых цалкам залежыць ад пастаўшчыкоў, а іх—сотні, і ў асноўным яны знаходзяцца ў Расіі. Нездарма прамысловасць Беларусі называюць вялікай зборачнай вытворчасцю.

Як жа быць рэспубліцы, калі Расія па заяве яе Прэзідэнта ўвядзе сусветныя цэны на сыравіну і свабодныя — на ўсе тавары? Жыццёва важнае пытанне абмяркоўвалася на пасяджэнні сёмай сесіі рэспубліканскага парламента пры зачыненых дзвярах, што вельмі здзівіла работнікаў прэсы. Пасля заканчэння дэбатаў у парламенце старшыні шэрагу яго камісій прыйшлі на сустрэчу з журналістамі і тое-сёе праяснілі.

Па-першае, заява Б. Ельцына—пакуль толькі заява. Паміж Расіяй і Беларуссю заключана эканамічнае пагадненне, у якім яны дамовіліся пазбягаць такіх крокаў, якія нейкім чынам ушчамлялі б інтарэсы іншых рэспублік. Таму беларускі парламент вырашыў накіраваць у Расію і на Украіну дэлегацыі для кансультацый, і толькі пасля гэтага можа быць канчаткова вызначана пазіцыя рэспублік ва ўзнікшай сітуацыі.

Старшыня Дзяржкамэканомплана Беларусі С. Лінг заявіў, што ўрад рэспублікі быў гатовы да падобнай весткі, што паступіла з Масквы. На выпадак уводу Расіяй сусветных цэн на сыравіну і свабодных на ўсе тавары ў рэспубліцы пралічана шэсць варыянтаў змянення цэн. Падрыхтаваны разлікі па ўвозу і вывазу тавараў з усімі рэспублікамі. Журналістам стала вядома, што дзве фірмы — англійская і шведская — на конкурснай падставе рыхтуюць беларускія грошы.

Але калі Расія запатрабуе плаціць, скажам, за нафту, вугаль, газ па сусветных цэнах, то тым жа адкажа і Беларусь адносна сваіх БелАЗаў, падшыпнікаў, іншай дэфіцытнай прадукцыі.

Некаторыя дэпутаты рэспублікі, вызначаючы сваю пазіцыю ў сувязі з заявай Б. Ельцына, катэгарычныя: Беларусь павінна весці абсалютна самастойную эканамічную палітыку. Іх у парламенце называюць «гарачымі галовамі»: як можа быць самастойнай такая магутная эканоміка, як у Беларусі, без уласнай сыравіннай базы?




185

— Потым ня ўсякая грамада можа навучыць чаму-небудзь. Запраўды, наша празская Грамада можа навучыць толькі гуляць у карты, пьянстваваць і рабіць кар'еру.

— Юпіцер, ты злуесься: знача, ты няправы, — засьмяяўся Тамашэвіч. — Адкуль такія чорныя фарбы, даражэнькі? Наша моладзь ня горш усякай іншай моладзі. Ёсьць тыпы адмоўныя, безумоўна, але ёсьць і дадатныя.

Тамашэвіч спрачаўся менш упарта. Ён бачыў, што Тугоўскі мае нейкую сваю думку й ня хоча з ім падзяліцца.

Прыгожыя карыя вочы рабіліся больш маленькімі, й ён бліскучым паглядам акідываў праціўніка. Тугоўскі затое наўмысьлі хацеў быць упартым — хоць у душы шмат згаджаўся з Тамашэвічам.

— І ўсё ж такі ня ў гэтым справа, — прадоўжываў Тамашэвіч, — справа ня ў нашай Грамадзе. Справа ў грамадзе наогул. Нашто табе наша Грамада... Калі ты чуеш сябе настолькі вышэй за нашую Грамаду, што можаш кідаць яе, дык маеш магчымасьць знайсьці Грамаду іншую, чэскую, напрыклад, баўгарскую, украінскую... У Празе, дзякаваць Богу, ёсьць дзе ўдасканаліцца. Можна запраўды разьвіцца й стаць культурным ува ўсіх адносінах чалавекам. Наша заданьне, паўтараю, наогул стаць у сьвеце з векам нароўне.

— Добрая рэч — асьвета, — усьміхнуўся Тугоўскі... — Добрая рэч паставіць сабе адно ці тысячы самых добрых заданьняў, але пытаньне — як іх дасягнуць. І потым я ня ведаю, чым гэта растлумачыць, я ня бачу ніякага задаваленьня ад таго, што я іх дасягну. Я ўдасканалюся па тваіму рэцэпту — магу скончыць вышэйшую тэхнічную школу.

186

Нарэшце, гэтага можна дасягнуць. Людзі нават бяз здольнасьцяў могуць скончыць курс 8-мі гадоў. Так, дапусьцім, што я стану інжынерам. Я шукаю спакою: правінцыі, палескай глушы.

— Сну, паспаць хочацца, — засьмяяўся Тамашэвіч, — тады, брат, нічога ня зробіш. Тады можа быць табе запраўды трэба чароўнай Маргарыты, як таму старому Фаўсту. А вось і яна, Маргарыта...

Да іх падыходзіла Вярхоўская.

— Лёгкая на спамін, — жартаваў Тамашэвіч, — а мы толькі што гутарылі аб Маргарыце і аб Фаўсце.

— Ого, — засьмяялася Вярхоўская, сядаючы з другога боку, каля Тугоўскага. — Відацца, што ў каго баліць, той аб тым і зачынае гаварыць.

—Тугоўскі пачырванеў да вушэй.

— Ужо ж, — засьмяяўся Тамашэвіч. — нам гэта вельмі баліць... Вось, ведаеце, спрачаліся мы з грамадзянінам Тугоўскім... Ён добры хлопец, як вы думаеце?

— Нічога, — засьмяялася Вярхоўская. — Калі сьпіць... Тады добры хлопец, але вось любе паспаць. Хто яго так сагнуў, ня ведаю. Па-майму, яго трэба было-б добра ўстрахнуць, як грушу... Тады-б з яго выйшаў-бы чалавек. Хлопец ён нічога. Хоча быць толькі арыгінальным... Але гэта не бяда.

Тугоўскі канфузьліва ўсьмяхнуўся.

— Я вось што хачу, — казаў, устаючы, Тамашэвіч, — каб з цябе, братка, выйшаў беларусдзеяч. Кінь свае арыгінальнасьці, будзь, як усе, і паступай да нас на філязофію. Гэта будзе лепш, чым на тэхніку. Стыпэндыю як-небудзь улаштуем.

— Правядлова! — гэты плян падтрымала Вярхоўская. — Улаштуем... Скажам, што ты бе-

187

ларускі паэт, кінуў тэхніку й па чэснасьці не захацеў атрымліваць стыпэндыю. А начальнік Чэска-Украінскага Камітэту палкоўнік, які любе часам быць ліберлам, зжаліцца і ўсё. Дык як, згоды?

Тамашэвіч глядзеў на яго пільнымі бліскучымі вачыма. Вярхоўская ўсьміхалася, з цікавасьцей аглядала яго фігуру.

Тугоўскі адварачываў ад яе твар і маўчаў.

— Маўчаньне — знак згоды. Знача, скончана, — засьмяяўся Тамашэвіч і разьвітаўся з Тугоўскім. — Я пайду, а вы паўплывайце на яго, Галена Уладзіміраўна, — казаў ён ужо адыйшоўшы. Вярхоўская з Тугоўскім засталіся адны. Настала непрыемнае маўчаньне.

— Ну, што новага? — запытаў ён нарэшце.

— Новага?.. Здаецца, нічога новага, апрача што вы ведаеце. Экзамены... Вось памірае "айцец" Кірыла.

— Што? — ледзь ня ўскочыў Тугоўскі. — "Айцец" Кірыла памірае?

— Так, доктар сказаў, што спадзявацца на яго выздароў немагчыма. У яго сухоты. Здаровых лёгкіх засталося толькі маленькія кавалачкі. Увесь час павышаная тэмпература да 39°. У яго шмат крыві выйшла.

— Скажыце! — дзівіўся Тугоўскі й з шчырым сумам спамінаў Кірылу. Ён пазбавіўся цяпер самага лепшага сябра, якога знайшоў у сваім цяжкім жыцьці ў Празе.

— Роджаны пад Сатурнам, — усё ж такі прабурчаў ён больш для сябе і спомніў прароцтвы астральнага чалавека, казаўшага, што Кірыла памрэ ад сухотаў. — Што вы кажаце. Роджаны пад Сатурнам... Чалавек памірае, калі яму застаў-

188

ся адзін дзень да дыплёму. Памірае ў росквіце сілаў, ня маючы магчымасьці вярнуцца на Бацькаўшчыну, якую ён хацеў бачыць квятучым садам. Хіба гэта не няшчасьце? Хіба гэтыя людзі не радзіліся пад няшчаснай плянэтай Сатурнам? Хіба ня цягне іх гэты праклаты Сатурн да магілы, калі яны самі цягнуліся да жыцьця? А колькі іх? Колькі іх у Празе, імкнучыхся, можа быць шчыра, да палепшаньня свайго палажэньня і нават цэлага народу й церпячых фіаска ў разгар сваей працы. Колькі іх, гэтых працавітых павукоў, павуціну каторых так бязжаласна зьмятае мятла выпадку. Колькі іх, гэтых мятучыхся, карачыхся ў муках людзей, й колькі сьлёз тых, якія шчыра будавал свой мурашнік, мурашнік, які прыпадак злосна раскідывае сваей нагой. Я думаю больш... Я пачынаю думаць, што мы ўсе тут у Празе — роджаныя пад Сатурнам, што ўсе мы загінуўшыя для Бацькаўшчыны людзі й можа быць не адзін з нас пойдзе па дарозе "айца" Кірылы... Хто выйдзе прарокам з нашага праскага Назарэту? Я думаю — ніхто. Большасьць з нас пакладзе свае косьці на чужыне, а меншасьць будзе стыдацца апранууца ў бацькавы кажух, бо ён сьмярдзіць... Так пройдзем мы, пражаньне, па сьвету, як пыл — не нацешыўшы нікога ні сваім росквітам, ні сваёй моцай, толькі жаласьцей ці пракляцьцямі.

Вярхоўская маўчала. Яна аб нечым думала. Аб самім Тугоўскім ці аб яго словах. Цяпер толькі ён спыніўся, каб падумаць, якое ўражаньне зрабіў ён на яе. Праз хвіліну яна падняла на яго ласкава вочы і прамовіла:

— А ўсё ж ткі, я думаю, што і наша зямля можа радзіць быстрых, разумных Ньютонаў і Платонаў. Я думаю, што і ў нашай Грамадзе ёсьць людзі, якія

189

могуць быць прарокамі; напрыклад, Тамашэвіч...

— А Загорскі? — Ён паглядзеў на яе насьмешліва. У гэты момант яна чамусьці здалася яму такой маленькай, звычайнай дзяўчынай. Яна паглядзела на яго ад зьдзіўленьня й пачырванела:

— Загорскі?.. Што вы? Ні ў якім разе...

— Чаму? — усьміхаўся Тугоўскі. — Яны вельмі падобны адзін на аднаго: Тамашэвіч, напрыклад, беларуская рэвалюцыйная балалайка... А Загорскі грае на скрыпцы... й на жаночым сэрцы... Як бачыце, абодва музыканты, й абодва вам падабаюцца.

— Кіньце вы, — казала яна, гледзячы на яго крыху спужана, — вы сяньня нейкі насьмешлівы, рашучы, як я вас ніколі не бачыла.

— Жыць буду, разумееце? Сяньня мне доктар сказаў, што жыць буду. Вясна ідзе. Ручайкі журчаць. Тугоўскі жыць будзе наперакор Сатурну, наперакор прыкрасьцям Загорскіх і іх паненак. Разумееце?

— Зноў Загорскі... Мне гэта імя не зусім прыемна, — прамовіла яна.

— Ах, вось як. Даўно? Вітаю, Галена Уладзіміраўна. Магу паведаміць, што грамадзянін Загорскі больш ня будзе спаць у прыгожай віле. Сяньня яго жонка-чэшка знайшла ў інтэрнаце сярод карцёжнікаў, калі ён прайграў усе свае грошы.

— Што? У яго была жонка? Чэшка? Ён іграў у карты? Нічога не разумею, — бляднела Вярхоўская.

— Хіба вы ня ведаеце, Галена Уладзіміраўна, — усьмяхаўся Тугоўскі. — Увесь Студэнцкі дом трубіў аб гэтым.

— Першы раз чую. Але мне ўсё роўна. Якая

190

справа мне да Загорскага. — Яна ўстала сур'ёзная і бледная. Тугоўскі глядзеў на яе й бачыў задаваленьне ў тым, што першы раз яна стаяла перад ім не каралевай, гордай і недаступнай, а звычайнай жанчынай, ня могшай схаваць сваей жанчынскай слабасьці. — Праваўдзіце мяне дахаты, — прамовіла яна, робячы над сабой высілак волі й сумна ўсьмяхаючысь.

— Дахаты? — рэзка, нават, як яму самаму паказалася, груба засьмяяўся Тугоўскі. — А што там будзе? Вы мне пакажаце цацкі, як заплакаўшаму дзіцёнку?

— Так... Можа быць пакажу дзіўныя цацкі, — горда й са сьмехам у адказ на яго рэзкасьць зазначыла яна.

— Не... Тады... вельмі дзякую. Якія я ня ёсьць, а вашай жаласьці не патрабую, і дзіцёнкам я не хачу быць. Бывайце... — Ён зьняў свой капялюш і, рэзка павярнуўшыся, выйшаў з Студэнцкага дому.

## КВАДРА ТРЭЦЯЯ

### I

Кірыла Бурачэўскі паміраў, шчыра аплаківаемы сябрамі. У яго не было ворагаў. За ўсё сваё жыцьцё ў Празе ён стварыў толькі цёплае адно-

191

шаньне да сябе: ён змог да кожнага сэрца працягнуць шчырыя чалавечыя ніткі дабраты і сымпатыі. Усе шкадавалі яго. І тое, што зараз парваліся ніткі повязі яго з усімі, і тое, што ён больш не пацяшаў нікога сваім гумарам, і тое, нарэшце, што хвароба яго была нейкім жорсткім, дзікім зьвяўшчам, вырваўшым на чужыне аднаго з самых старых сябраў Грамады, рабіла велізарны сум на ўсіх і прымушала ледзь ня штодня адпраўляцца да Кірылы ў санаторыю. Ён ляжаў сярод сасновага бору, сьпяваўшага яму старыя, знаёмыя, блізкія яго беларускаму сэрцу песьні. І можа быць таму, што песьні бору такія блізкія, родныя, як на Беларусі, ён увесь час думаў аб родных палёх, аб роднай хаце, дзе чакала яго старэнькая матка... Ён увесь час шкадаваў, што памірае на чужыне як эмігрант. Бывалі часы, калі ён думаў, што сьмерць немагчыма: яна была-б жорсткай у гэты мамэнт, калі ён быў яшчэ малады, задзёрны, калі жыцьцё толькі пачынала адчыняць яму свае прыгожыя дарогі, калі фартуна павінна была пакрыць яго дыплёмам інжынера. Тады ён падымаўся з пасьцелі і наперакор усім мэдыцынскім прадпісам, падходзіў да адчыненага вакна, каб схапіць у свае хворыя лёгкія сьвежага паветра. Вакно выходзіла ў сад, за якім стаяла веранда, дзе спаў сухотнік зімой і летам. А за верандай скакала па каменьнях рака. Ён стаяў і глядзеў, як зачараваны, на вясёлую раку, ляцеўшую кудысь у невядомую далю, й думаў пра другую раку, пра свой родны Нёман. Там, на яго берагах, ён правёў сваё дзяцінства, там вырас, слухаючы яго казкі і легенды, й там ня можа ляжаць вечна, каб вечна бачыць яго берагі й слухаць яго журчаньне. Ён стаяў нядоўга, бо зараз пачынаў чуць, што ногі яго дрыжаць, у

192

грудзёх пачынае нешта жахліва клекатаць і хрыпець, і жахлівы кашаль ахопліваў яго настолькі, што ён ня можа адкашляцца й бяссільны валіцца на пасьцель. Некалькі разоў паўтаралася такое хлебаньне паветра, але нарэшце ён зразумеў, што доктар правы, што мэдыцынскія прадпісы зьневажаць нямножна й што трэба легчы ў пасьцель і прымірыцца з тым, што ён памірае. Ён ляжаў й пераконываўся, што дні хутка лятуць. З кожным днём ён сох усё больш і больш, ён мог пра сябе сказаць, што ён быў запаленай сьвечкай, гарэўшай у цемры й гаснуўшай з кожнай гадзінай. Ён бачыў, што жыцьцё дагарала, й толькі з жахам думаў, што будзе, калі яго сьвечка пагасьне й стане зусім цёмна, як уначы. Ён баяўся ночы і прасіў доктара даць як мага мацнейшых лякарстваў, каб заснуць і ня бачыць жахлівых кашмараў. Ён прабуджаўся пад ранак увесь у поце, — увесь пад уплывам начных прывідаў і, толькі ўцешаны днём, радасна глядзеў на сонца і супакойваўся. Днём заўсёды было весялей, днём прыходзілі сябры, днём каля пасьцелі сядзела сядзелка і вязала панчоху, днём у садзе сьпявалі птушкі й працавалі людзі, а ўначы ён быў адзін, толькі адзін званок, працягнуты да пасьцелі, дазваляў яму выклікаць сястру ці доктара. Часам яму рабілася настолькі страшна, што ён хацеў адчыніць вакно і крыкнуць у начное паветра: "Грамадзяне! Мне страшна! Ведаеце вы, што знача памірачь пры поўнай сьвядомасьці з цьвяроза гледзячымі на ўсё вачыма?" Але ён ведаў, што людзі ня чуюць, яны не разумеюць слоў аб сьмерці. І ён маўчаў, чакаючы, калі ён зачыне вочы й яго ахопе ноч, ноч у нейкай яме, дзе можна шукаць й крычаць у сьцены — ніхто не пачуе. Нарэшце ён прымірыўся з лёсам.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 45.

# THE FIRST STEP IS THE HARDEST

## LIBERALIZATION OF PRICES

Just as drops of water wear away stone, we economists have managed, I believe, to drum into the leaders heads that if they want a market economy prices should be uncontrolled: all prices — wholesale and retail, not by instalments but at one go. Since we began talking about this the USSR has collapsed together with its economy, and now this work will be done by other people in different, much worse conditions. Do the Russian leaders have enough prestige to perform this painful operation without anaesthesia?

It is unfortunate that together with the liberalization of prices they'll have to take a number of drastic, unpopular decisions.

I expect President Yeltsin to issue a decree on the complete cessation of arms production from next Monday — we have enough arms. To avoid a social upheaval, the workers of the military-industrial complex will have to be paid average earnings during conversion. This will be the guaranteed part of their incomes. And the wages fund formed from what remains after selling civilian products can be given to them as an increment.

In this way the liberalization of prices won't necessarily cause a rise in the prices of metal, fuel, electricity, chemical products and building materials. Demand for them will fall in the wholesale market, which will gradually be supplied with consumer goods and everything needed for their production. That is, the inflation processes inevitable with the belated liberalization of prices will be counterbalanced by powerful deflationary factors.

Multiple reduction of military expenses is now virtually the only, and definitely the fastest, way of improving both the budget and money circulation. But again the question arises: what budget and whose money? In one year the prices of, say, grain have risen about 20 times, amounting to 2.500 roubles per ton. But even for this fantastic price there is hardly anyone wanting to sell his grain — people have no faith in roubles. It is high time Soviet roubles bore the same inscription as the notes devised by Makhno (Nestor Makhno, leader of anarcho-peasant movement in the South Ukraine, 1918—1920): "Those who refuse to accept this money shall be skinned alive."

By the way, this is envisaged by the new, or rather abortive, Treaty on Economic Community. This absurd document makes it incumbent upon the parties to sign an agreement on prices and the amount of goods exchanged between states for roubles. Let's do a little counting: not long ago Boris Yeltsin threatened to raise the price of oil from 70 to 280 roubles per ton; this immediately sparked off a scandal as it was considered too expensive. Under these conditions Russia would have to give nine tons of oil for every ton of Ukrainian wheat, whereas in the world market it can be exchanged ton for ton. Since the signatory states are vested with the right of fixing prices by a qualified majority vote it is easy to foresee what the sale price of Russian oil would be.

Fifteen Republics compete in inflating expenses calculated in roubles and none of them is responsible for the consequences. As a result, the rouble has been trampled underfoot and cannot be revived. The same will happen to any other common money. Some 18 months ago I suggested a transfer to the national currencies of sovereign states and was accused of wrecking the Union. Now I hope everyone sees who was right. But we have missed the opportunity for coordinated, simultaneous action.

The Baltic countries have already printed their money. What prevents them from stopping the circulation of roubles? You may be sure that banknotes which are useless there will move into the rouble zone and sweep our market. Something like this is already happening: money dealers from the Baltic states are prudently buying up dollars in other regions and in a few weeks the exchange rate of the dollar on the black market has risen from 32 to 45 roubles. The states which are late with the introduction of their own money are the losers since the liberalization of prices will make them face a higher inflation rate.

There is no choice: we shall have to release prices all the same. But the sooner we introduce Russian money, the less we will lose.

The market economy cannot be built without reliable money as a measure of value. Privatization of property must quickly begin, since it is the basis of the market. However, the going is tough. Take the privatization of housing. The owners of luxury flats must pay 800 roubles per square metre for extra floor space. This doesn't seem cheap, but a private residence with 100 sq. m. excess floor space will cost the buyer 80.000 "wooden" roubles, whereas in dollars it costs about 150.000. Why this difference?

To sell the land and means of production for credit is like giving them away for nothing: when payment time comes the sum received will be symbolic and the vendor will get just a pile of coloured paper. Hence the credit price must also be released and this will be a profound credit reform.

In short, whilst expressing rapture over Russia's transition to the market economy with the liberalization of prices it is the duty of an economist to warn that this measure will be beneficial in combination with general market reforms.

**Vasily SELYUNIN**

**Editor of the English page T. BONDARENKO**



*Autum on the Svisloch* — *Photo by E. ELXINA*

# «THE SADDEST BUILDING ON EARTH»

"**INSIDE Chernobyl Sarcophagus**" is one of the most haunting pieces of television one can ever see.

On April 26, 1986, the nuclear plant at Chernobyl exploded. A meltdown had occurred and the molten nuclear fuel threatened to burn through the concrete and pollute the groundwater. Worse, even the experts did not know whether a nuclear chain-reaction would start spontaneously in the reactor.

To minimise the contamination, the reactor had to be protected. The process of building a "sarcophagus" for the reactor took three months, during which time a quarter of a million workers were exposed to their lifetime limit of radiation.

The workers were guided by an elite group of scientists from Moscow. They were the first scientists to undertake such dangerous work and knew from the outset that exposure to so much radiation would permanently damage their health. The air they breathed contained plutonium dust.

"**Inside Chernobyl Sarcophagus**" tells the story of their battle to prevent a second explosion at Chernobyl; how they now fear the formation of a radioactive dust cloud as the sarcophagus starts to collapse from within and of their urgent need to build a second sarcophagus to encase the first tomb and prevent the dust escaping.

The program also considers the repercussions of the disaster on their personal lives. For the first time, they make a direct appeal for an international effort to help them. If nothing is done now, or if they get it wrong, another accident will almost certainly happen in five to seven years'time.

In the words of two of the scientists working on the site: "The Chernobyl Sarcophagus must be the saddest building on earth. It is certainly no place for people."

And: "It is as if those who have worked within it have written a textbook on how to cope with a major nuclear accident, a textbook that has been written in their blood".

# CARDIN AIDS CHERNOBYL

### *JEWELRY CREATED BY THE FRENCH DESIGNER HELPS THOSE HARDEST HIT.*

It was early one spring morning, precisely at 1:26 a. m. on Saturday, April 26, 1986, when No. 4 reactor of the Chernobyl nuclear power station exploded, contaminating vast expanses of cultivated land, forests, rivers and lakes, towns and villages in the Republics of Byelorussia, the Ukraine, and the Russian FSFR.

That was overfive years ago-already! — and much of the world has forgotten.

Fortunately, not everyone. Pierre Cardin, an Honorary Ambassador of UNESCO, is among those who not only remember, but is reminding others that four million people, of which 800,000 children, affected by the disaster, still need our help.

Under the double motto: "Never Again! Priority Environment," the celebrated French couturier and designer has created a collection of jewelry, medals, sculpture and badges to be sold for the benefit of UNESCO's Chernobyl Programme.





**"To symbolize the co-operation between nations needed to protect our planet", he said, "I chose a globe marked with the Chernobyl site. Mounted on a pivot, it is ringed with a silver disk symbolizing the atmosphere — the source of all life".**

Using this basic design, Cardin's creations cover a wide price range. A brooch which can also be worn as a pendant sells for from 2.083 FF to 9.045 FF for the gold and silver model with a ruby marking the Chernobyl site. Badges and pins sell for from 50 FF to 1.900 FF. Art Medals, stamped by the Paris Mint, are priced between 3.500 and 6.700 FF, and a numismatic collection of two-colour medals, also produced by the Paris Mint, sell for between 170 and 2.500 FF.

Finally, for stamp collectors, a Chernobyl envelope with a bronze medal and a Soviet stamp postmarked April 26, 1991, the fifth anniversary, costs 80 FF.

Proceeds from sales are going to some 60 pre-selected projects, among them the Chernobyl Centre for Psychological and Educational Rehabilitation of Children and Family.

Last April, along with UNESCO Director-General, Federico Mayor, and other personalities, Cardin traveled to the nuclear site, inspecting the concrete "sarcophagus" over Reactor No. 4, visiting abandonned villages and, in others, speaking to some of the people who have been permitted to return home and finish their lives where they have always lived and where their families are buried.

Cardin has always traveled widely and will continue — but with a new task. **"As UNESCO Ambassador I will now be able to address press conferences, speak to individuals and business people"**, he said **"to convince them that this drama must never again occur. We must be very conscious of the threat"**.

## *ЛЁС ПАРТЫЙНАЙ МАЁМАСЦІ*







**Старажытны асабняк па вуліцы Пушкінскай, дзе яшчэ зусім нядаўна размяшчаўся Брэсцкі гарадскі камітэт партыі, перададзены пад выставачную залу абласнога краязнаўчага музея. Жыхары і госці горада паспелі ўжо азнаёміцца тут з такімі цікавымі экспазіцыямі, як выстаўка рэпрэдукцый М. Рэрыха, «Брэстчына ў старых паштоўках», «Фларыстыка Ганны Салаўёвай» і гісторыка-этнаграфічнай. Цяпер тут разгорнута вялікая экспазіцыя палотнаў з фондаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР «Рускі жывапіс другой паловы XIX стагоддзя».**

**НА ЗДЫМКАХ: асабняк, які перададзены абласному краязнаўчаму музею; ля карціны І. Айвазоўскага «Мора»; зала, дзе размешчана этнаграфічная выстаўка. Экскурсавод Іна РУДКОЎСКАЯ (злева) праводзіць экскурсію.**

# ПЕСНЯ ДЛЯ ВЕРЫ, або МАРШРУТ НЬЮ-ЙОРК—СТРЫЕЎКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Толькі аднойчы нам выпала пагаварыць. Вера лёгка вяла машыну, абганяючы мерседэсы і джыпы. Навокал грукатаў і блішчэў, як касмічны прывід, грандыёзны Нью-Йорк.

— Ці бывала ты ў Гродне? — пачула я яе глухаваты голас.— Там у вёсцы пад Гродняй жыве сястра. Марыя завецца. А сын яе хваробу крыві мае. Пісалі, што ад Чарнобыля тое... Баліць мне душа за іх, разумееш... Дзяўчынкай, перад вайной яшчэ, з'ехалі мы з бацькамі адтуль. Сястра засталася на Беларусі, адзін брат цяпер у Англіі, другі ў Польшчы. Уся вялікая сям'я раскідана па свеце.

Вера ціха апавядала пра тое, як жылося ёй у эміграцыі спачатку ў Францыі, а потым у Амерыцы.

Сучасны вобраз эмансіпіраванай жанчыны, якая дабілася поспеху, маёй зямлячкі, ніяк не вязаўся з новым — нязграбнага падлетка ў абносках, які нароўні з мужчынамі да знямогі працаваў на ферме.

— Я цягала на сабе мяхі з буракамі і бульбай, палола грады, прастойваючы днямі ў халоднай вадзе. А ў маці былі хворыя ногі,— працягвала Вера,— ёй было так цяжка.

Вера даўно ўжо пахавала сваіх бацькоў у Амерыцы. Тое, далёкае жыццё, калі яны, бежанцы з Беларусі, рвалі жылы на цяжкай працы ў чужыне, не прайшло бясследна. Прыступамі рэўматычных боляў нагадвае пра сябе халоднае і галоднае юнацтва. Веры пашанцавала ў тым, што аказалася яна моцнай і цярплівай, вельмі працавітай і кемлівай. Адзін багаты француз, дантыст па прафесіі, узяў яе сваёй памочніцай. Дзяўчына спраўна рабіла ўсё, чаму яе вучыў доктар, старалася. І праз некаторы час магла замяняць свайго шэфа ў самых складаных сітуацыях.

Пазней, ужо ў Амерыцы, Вера стала працаваць самастойна, адначасова брала курсы па медыцыне. Але дыплома не атрымала, бо з'явілася сям'я, дзеці, і трэба было нечым ахвяраваць. Толькі таму яна не мае цяпер уласнага офіса.

Не вельмі, відаць, шмат жаночага шчасця выпала на долю Веры Заморскай. Мусіць, не суджана. Цяжка, у пакутах паміраў муж. Яна мужна вынесла ўсе выпрабаванні. Падняла дваіх дачок. Старэйшая, Таня, сёлета скончыла універсітэт.

Палітыкай Вера ніколі не цікавілася. Але ў баку ад беларускіх спраў не стаяла. Ахвяравала грошы і на беларускую газету, і на розныя мерапрыемствы, што ладзіліся ў асяроддзі нашай эміграцыі, на царкву.

Эпізадычныя сустрэчы з гэтай амерыканскай беларускай нямала далі мне для разумення гісторыі і характару нашага народа, беларускай эміграцыі і самой Амер

Галоўны . прынцып у рабоце — не быць староннім назіральнікам, абыякавым сведкам падзей — падштурхнуў не ставіць кропку на сваіх сустрэчах з Верай Заморскай у Нью-Йорку. У незнаёмай вёсачцы пад Гродна памятала, жыла яе сястр я паабяцала Веры там пабываць. Без прыкрасы, праўдзіва пра ўсе напісаць.

### ЧАСТКА ДРУГАЯ

У халодны кастрычніцкі дзень маршрутны аўтобус Гродна — Азёры прыпыніўся каля вёскі Стрыеўка. Не ведаючы, куды падацца і ў каго запытацца пра Верыну сястру, зайшла ў мясцовую прадуктовую краму. Прадуктаў — ніякіх, акрамя хіба што солі. Пустыя прылаўкі неяк адразу настроілі на сумны лад. «Вунь там, пад высокай бярозай,— хата Марыі»,— паказалі людзі. Заасфальтаваная дарога прывяла да брамкі.

У нерашучасці спынілася, чакаючы, пакуль нехта выйдзе з хаты. (Папярэдне пісала ліст, што прыеду, ведала, што чакаюць). Забрахаў сабака, і аднекуль з глыбіні двара, дзе, мусіць, толькі што давала скаціне, з бурачным бацвіннем у руках, уся ў латанай-пералатанай вопратцы, закручаная ў хусткі, у ботах паявілася гаспадыня. Нейкае імгненне, толькі імгненне мы глядзелі адна на адну: я на яе — у брудным чорным адзенні, яна на мяне ў замежным яркім. І кінуліся адна да адной, быццам былі знаёмыя, быццам родныя.

— Танечка?! Дзетачка! Як жа я чакала цябе, чаму не папярэдзіла — сустрэлі б,— галасіла Марыя Пятроўна,— у дзетак жа свае машыны.

Па абветраным яе твары цяклі, як кроплі дажджу па шклу, слёзы.

— Ты не пужайся, што я такая зашмальцаваная — маю што апрануць і грошы маю — не жабрачка. Гаспадарка, ведаеш: куры, свінні, ваду цягаю. Усё ёсць, дзетачка: і бульба, і сала, і мяса, і агурок, і яйкі... Не тое, што ў горадзе цяпер — па чэргах стаяць. Усё сваё.

Марыя Пятроўна, сцягваючы з сябе хусткі, павяла мяне ў хату, у цёплую куханьку, дзе на пліце стаялі вялікія і малыя чыгуны, парылася ежа для кабанчыка. У цынкавым вядры на лаве — чыстая вада, на сцяне — рукамыйнік.

— Тут жыла і Вера? — папыталася я адразу.

— Ды не, дзетачка, хата наша была непадалёку, на гэтым самым баку вуліцы. Ад першага бацькі трое дзяцей — Фэлька, Стэх і я. А ад другога — Верачка, Нінка і Аня. Але, скажу, дружныя былі, я глядзела малодшых. Аднойчы, памятаю, вядро вады несла і Верачку (нявелькая была яшчэ) на другой руцэ трымала. Ды не ўтрымалася, упала, дзіця абліла. А айчым быў адукаваны, масты будаваў. Заўсёды падарункі дзецям прывозіў, а тады, за польскім часам, як Саветы павінны былі прыйсці, бацька пабаяўся застацца. Пайшоў. Неўзабаве праз нямецкае консульства запатрабаваў маці, дачок і прыёмнага малодшага Фэльку. Я ўжо праводзіла іх за Саветамі. Павяла на цягнік, плачу, заліваюся слязьмі — адна ж застаюся. А людзі кажуць, маўляў, завязуць іх да белых мядзведзяў... Гэта значыць — у Сібір. Але нічога, абышлося, сустрэліся яны з бацькам. А я баялася тады, што арыштуюць іх, кажу на развітанне: «Мама, я вам хоць сухароў пасушу і пашлю».

Як прыйшлі першыя Саветы (уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.— **А. Т.**), то некаторых забіралі немаведама за што, вывозілі адсюль. У асноўным тых, хто жыў заможна ці працаваў леснікам або солтысам. Вось так, дзетачка. Удосталь я гора сёрбала, бедавала ад галечы... Дзякуй, сястрычкі не забыліся, дапамагалі, чым маглі, хаця і самі не надта што мелі.

Усё жыццё Марыі Пятроўны прайшло ў Стрыеўцы. Тут нарадзілася, тут жыла, як яна кажа, і за польскім часам, і за першымі Саветамі, і пад немцамі, і зноў за Саветамі. Тут замуж выйшла, тут мужа пахавала, які паранены і хворы прыйшоў з фронта. Свету белага не бачыла за працай: касіла, арала, бульбу садзіла, плуг вадзіла, жорны круціла, ткала, прала, шыла і жала. Рабіла ў калгасе цялятніцай, паляводам. Тут сямёра дзяцей нарадзіла. Каго калі дакладна — не памятае. «У прамежак паміж працай,— жартуе яна,— адзін сынок, як бульбу выбіралі, другі — як лён малацілі, дачушка — на Каляды...»

Да ўсяго была здатная Марыя Пятроўна. Усяму навучылася.

— Самае цяжкае — гэта было лён апрацоўваць,— кажа яна.— На кожную жанчыну выпадала больш як па гектару. Не бярэ рвалка, то мы яго рукамі дзяром, потым на полі абабіваем. Бывала, параблю ўсё па гаспадарцы за дзень, іду ноччу ў хлеў, павешу лямпачку і тру лён. Што гэта за цяжкая праца — не перадаць! Па 200 кілаграмаў трэба было здаваць. За капейкі рабілі ў калгасе.

Калі гэта тое было? У 50-я ці 60-я гады. Калі краіна ад развітога сацыялізму перайшла да пабудовы камунізму. Будалі камунізм. Марыя Пятроўна — у перадавіках, бо ўсё, што ні робіць, гарыць у руках. А тады яшчэ і на хор паспяваць з дзяўчатамі злётае.

У 50 гадоў, як мнагадзетная маці, пайшла на пенсію. Цяпер з усімі надбаўкамі атрымлівае ад калгаса 200 рублёў. Трымае ўласную гаспадарку. Агародзік у яе 35 сотак. На калгасным полі выдзяляюць участак каля 15—20 сотак для бульбы. Здаецца, можна было б спакойна дажываць свой век. Гады ўжо немалыя, пад сёмдзесят.

— Гэта, напэўна, у Амерыцы так можна, дзе ўсё гатовае, а ў нас сваімі ручкамі трэба зрабіць, як хочаш есці і піць,— лічыць Марыя Ляўко.— З кароўкай я ўжо не дам рады, прадала яе. Кабанчыка, свінню і двух парсюкоў трымаю. Дзевяць вёдраў ім штодня зрабі... Колькі ж той бульбы, буракоў трэба назапасіць... Сілы ўжо не тыя. А ў калгасе не дапросішся тэхнікі, каб пасадзіць ці выбраць бульбу. Дзеці толькі і дапамогуць.

Дзеці ў Марыі Пятроўны ўсе выйшлі ў людзі. Верачка, Лёня, Коля і Міша жывуць у Гродне. Чэся — у суседняй вёсцы. Марыя — тут жа, у Стрыеўцы. А Ванечка, што на інваліднасці, з ёю ў хаце.

Даведаўшыся, што да маці прыехала госця, якая прывезла прывітанне ад цёткі з Амерыкі, яны хутка сабраліся ўсе разам. Кожны хацеў, каб я пабывала і ў яго. Усё самае лепшае, самае смачнае падавалася на стол. І кансерваваныя агуркі, і памідоры, і салянка, і шынка. Усё не магазіннае, а зробленае ўласнымі рукамі.

Я сядзела ў гэтай дружнай і вясёлай кампаніі, і міжволі прыходзілі на памяць словы з песні беларускага рок-гурта «Мроя»: «Душа, гуляй! Хоць тут у нас зусім не рай.— Тут родны край».

Марыя Пятроўна, якая і тут, за сталом, была камандзірам, загадала сваім: «Зараз спяваем песню для Верачкі. А ты, Таццянка, пакладзі яе ў кішэню і перадай маёй сястры»,— жартаўліва кінула яна.

Песня была сумная: пра чаромху і пра расстанне, пра нешчаслівы лёс. Прымі, Вера, песню ад сваіх з Беларусі.

### ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Развітваючыся са мною, Марыя Пятроўна прасіла:

— Скажы маёй Верцы, як будзеш тэлефанаваць ці пісаць, што ёсць у нас усё, жывём добра, няхай сябе глядзіць. Колечку, сыночку, аперацыю зрабілі, і цяпер як быццам няблага сябе адчувае, але... Што там казаць. Можа, прыедзе неяк да нас.

Сапраўды, павінна я напісаць шчыра, што ўсё добра ў сям'і Марыі Ляўко. Ад яе, як ад моцнага кораня, далі расткі ўглыб сыны і дочкі. Не канчалі яны універсітэтаў, але знайшлі сваё месца на зямлі і моцна яе трымаюцца. Усе працавітыя, не гультаі ці абібокі якія. У дачкі Марыі Пятроўны, напрыклад, што жыве з сям'ёй у Стрыеўцы, хата цагляная, двухпавярховая, больш нагадвае амерыканскі катэдж. І жывёлу хатнюю трымаюць, і машыну маюць, можна сказаць, заможна жывуць.

Добра ўсё ў гэтай сям'і, але, на жаль, пакуль яшчэ не ўсё добра ў нашым родным краі. Марыя Пятроўна, якая бачыла, здаецца, усякага на сваім вяку, сваёй сялянскай псіхалогіяй ніяк не можа спасцігнуць тое, што адбываецца цяпер у краіне, і чаму з кожным годам жыць становіцца не лепш, а горш. «Як жа гэта жыць людзям, гадаваць дзяцей, унукаў, калі нідзе нічога няма, а працоўны чалавек ніякага аўтарытэту не мае, а толькі шпікулянт усё можа,— занепакоена яна,— што гэта за рынак такі, калі ў аптэцы і ў магазіне пуста, а ўсё перакачавала да шпікулянтаў!» Як ёй, што ўсё жыццё рабіла да сёмага поту, каб вылезці з беднасці і нястачы, растлумачыць, што дарога да храма капіталізму будзе доўгай і цяжкай? Як растлумачыць, што слабыя загінуць, не дайшоўшы? А дзецям яе ніякай палёгкі не будзе, ім, як і ёй, давядзецца працаваць да сёмага поту, каб толькі выжыць.

Хочацца спадзявацца, што родны край — Беларусь — стане больш ласкавым да ўсіх сваіх дзяцей. І да тых, хто жыве далёка-далёка, і да тутэйшых.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**КАМІТЭТ ПА КУЛЬТУРЫ Ў НОВЫХ ДЗЯРЖАЎНЫХ СТРУКТУРАХ**

# ЗАМАРОЗІЦЬ—ГЭТА ЯШЧЭ НЕ СПАЛІЦЬ

На Камітэт па **культуры** Вярхоўнага Савета СССР мы ўскладалі вялікія надзеі. Верылася, што ён зможа стаць цэнтрам прававой абароны, каардынатарам супрацоўніцтва суверэнных дзяржаў у галіне культуры. І першыя крокі пераконвалі ў гэтым: прыняты, адобраны шэраг прававых актаў, якія аберагаюць нашу мастацкую спадчыну, мастака-творцу.

Ці знойдзе камітэт сваё месца ў новых дзяржаўных структурах? Як складваецца лёс ужо падрыхтаваных законапраектаў? На гэтыя пытанні адказвае старшыня камітэта **У. СТАЛЬМАШОНАК.**

— Шчыра кажучы, цяпер мала хто думае пра лёс культуры і мастацтва. Тым не менш група дэпутатаў выпрацавала прапановы, рэалізацыя якіх, на наш погляд, можа забяспечыць абарону і развіццё духоўнай дзейнасці. Мы лічым неабходным прадугледзець Камітэт па культуры і ў структуры новага Вярхоўнага Савета СССР.

Нельга выпускаць з-пад увагі, што путч у значнай ступені быў вынікам крызісу палітычнай культуры, культуры ўлады ў краіне і ўзнік на фоне поўнага безуладдзя культуры. Нам жа да гэтай пары так і не ўдалося ажыццявіць гуманітарную экспертызу ўсіх законапраектаў, усіх эканамічных праграм і— няхай гэта не здасца ганебным — характараў нашых палітыкаў. Гэта цяпер усе сталі фізіянамістамі. Мастакі, акцёры, вострыя пёры на ўсе лады размалёўваюць, шаржыруюць, парадзіруюць Паўлава і Янаева, Пуга і Кручкова... Але ж гэтае прасвятленне прыйшло не сёння. Адсутнасць інтэлекта, інтэлігентнасці, стрымліваючых маральных крытэрыяў адзначалася ўсімі, хто не згаджаўся з узвышэннем гэтых «лідэраў». Але празорлівых людзей не захацелі слухаць.

І вось яшчэ адзін чорны вынік: нанесены вельмі адчувальны ўдар па культуры. Аказаліся замарожанымі многія сацыяльныя і культурныя праграмы, затармазіўся рух важнейшых законапраектаў. Але гэта не значыць, што масты спалены. Законапраекты можна крытыкаваць, выпраўляць, дапаўняць, але нельга не заўважаць іх сутнасці—яны адрасаваны чалавеку, яны вынікаюць з цвярозага розуму, бясспрэчных маральных каштоўнасцей, з неабходнасці стварыць умовы для аднаўлення разбуранага, для развіцця мастацтва, для творчасці.

Я не магу сказаць з упэўненасцю, ці захаваецца і ў якім выглядзе наш Камітэт па культуры. Але ўпэўнены, што неабходна ўладная структура, здольная абараніць нашу спадчыну і духоўную будучыню. Гэта павінен быць своеасаблівы мазгавы цэнтр, які б гарантаваў развіццё культуры. Можна залучыць у яго лепшыя розумы, самых аўтарытэтных людзей. Не хачу нікога пакрыўдзіць, але перакананы, што такі цэнтр (ці камітэт) павінен фарміравацца з прафесіяналаў. Няхай у ім будзе менш дэпутатаў, максімум 20—25 чалавек, але сур'ёзна працуючых людзей.

Мы прапануем вынесці на сесію раней падрыхтаваныя Камітэтам па культуры законапраекты аб прававой абароне культуры, выдавецкай, архіўнай і бібліятэчнай справе, аб некамерцыйных прадпрыемствах, кіно і музеях. Неадкладнага вырашэння па трабуе устанаўленне статуса ўстаноў культуры.

Трэба дабіцца неадкладнай ратыфікацыі шэрагу міжнародных дакументаў у абарону культуры, у тым ліку і ўвайсці ў Бернскую канвенцыю. Газеты стракацяць паведамленнямі аб скандалах на кінарынку, аб відэапіратстве, аб грабяжах з боку прадпрымальнікаў, якія гандлююць кантрабанднымі запісамі. Ужо з'явіліся цэнтры, што тыражуюць папулярную музыку і поўнасцю ўхіляюцца ад падаткаў. Дзяржава ж, патураючы ўсяму гэтаму, страчвае вялікія прыбыткі, не гаворачы ўжо аб страце аўтарытэту. Ёсць і далёка ідучыя вынікі—аж да магчымай адмовы ад гандлёвых пагадненняў з нашага боку.

**— А як ідуць справы з намечаным раней на восеньскую сесію слуханнем праблем культуры, Еўрапарламенцкімі слуханнямі аб развіцці нацыянальных культур у СССР?**

— Надзвычай важна, каб яны адбыліся, нягледзячы на ўсе складанасці пераходнага перыяду.

Я неаднаразова ўжо гаварыў, як многа краіна ўпусціла, не падтрымаўшы своечасова і належным чынам праграму ЮНЕСКА «Дзесяцігоддзе культуры». Што б ні здарылася, я буду прыкладваць намаганні, каб мы не пагразлі ў злабадзёнцы, а перайшлі ад тактычных крокаў—ад заканадаўчых праектаў у імя выратавання і абароны культуры да ажыццяўлення стратэгічных ходаў—да стварэння ўмоў для развіцця культурнага асяроддзя, асяроддзя пражывання чалавека.

**— Вы мастак, а мастак не можа жыць без мары. Разумею, што гэта слова сёння здаецца не да месца, пышным. Няхай не мара, але хаця б надзея ў вас засталася? З чым вы яе звязваеце?**

— Калі хочаце, ёсць і мара, і надзея—пастарацца праз міжнародныя культурныя суольніцтвы аб'явіць XXI стагоддзе (хаця б яго пачатак) стагоддзем культуры. Хопіць траціць сілы на вытворчасць зброі. Наша стагоддзе захлынулася ў крыві. Няўжо мы не можам спыніцца і адкрыць дарогу кожнай творчай асобе? І перакананы, што калі людзі перастануць біцца адзін з адным, калі іх не прымусяць біцца за кавалак хлеба і зямлі, яны зразумеюць, як бясцэнна ўсё, што яны могуць стварыць на карысць сваіх народаў.

**Г. УЛАДЗІМІРАВА.**

# БЯСЦЭННАЯ СПАДЧЫНА

## ПАМЯЦІ Міхаліны БУЙЛО



На 93-м годзе жыцця ў Маскве ціха адышла Міхаліна Антонаўна Буйло, сястра і сардэчны сябар нашай вядомай паэтэсы Канстанцыі Буйло. У 1975 годзе ў адным з пісьмаў да сястры Канстанцыя Антонаўна пісала: «У жыцці ты для мяне заўсёды была прыкладам душэўнай моцы, камуністычнай сумленнасці, вялікага напружання розуму і сіл, што дало табе магчымасць заняць такое высокае палажэнне ў грамадстве, у калектыве, дзе ты працавала, сябравала з дастойнымі людзьмі і якой павагай, якім аўтарытэтам карысталася! Перад табой схіляю галаву як перад чалавекам высокай меркі.

А маё ўзнясенне — гэта ад Бога. Шанцавала мне ў жыцці. Хапіла ўпартасці вучыцца, хапіла ўпартасці ўстаць на ўласныя ногі і цягаць усіх вас за сабой усё жыццё, пачынаючы з Земскага саюза і канчаючы Масквой. Ці на карысць гэта вам? Хто ведае. Можа жыццё на Беларусі было б ле[illegible]м, здаравейшым, а можа [illegible]. Што цяпер пра гэта думаць».

Як і сястра, Міхаліна Антонаўна з 1923 года жыла ў Маскве, але і на схіле сваіх дзён прызнавалася, шт[illegible] ўсё самае ласкавае, духмянае, прыемнае было там, на Беларусі, а «тут я гэтага не бачу і не адчуваю».

Сваёй радзімай яна лічыла Вішнева на Валожыншчыне. «Таму што доўга, гадоў пяць, мы там жылі. Гэта самае любае для мяне месца». Толькі ў 1957 годзе пабывала ў Вішневе зноў, перажыўшы непаўторныя хвіліны спаткання з дзяцінствам, пра што пісала ў лісце да сястры і брата. У кароткай жалобнай заметцы няма мажлівасці (але я спадзяюся, што яна абавязкова прадставіцца) апісаць складанае і карыснае для людзей жыццё Міхаліны, ці, як яе звалі блізкія, Іны Антонаўны. Наша бясконцая ўдзячнасць ёй за тое, што з яе дапамогай сталі вядомымі многія не прачытаныя раней старонкі біяграфіі Канстанцыі Буйло. Для дзяцей, для ўнукаў і праўнукаў пісала яна ўспаміны пра дзяцінства, пра бацькоў, пра братоў і сясцёр, пра побыт і пастаянныя вандроўкі дружнай і мужнай сям'і Антона і Настассі Буйло.

Як і іншыя дзеці ў гэтай сям'і, яна не заканчвала ніякіх навучальных устаноў, але была чалавекам адукаваным. Перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй яна вучыла дзяцей сялянскай беднаты ў школе, адкрытай Магдаленай Радзівіл. У час Айчыннай вайны была дырэктарам Інстытута кермоў на станцыі Лугавая пад Масквой.

Пасля смерці Канстанцыі Буйло мне пашчасціла пазнаёміцца з Інай Антонаўнай. Сёстры былі вельмі падобныя знешне, а яшчэ больш—сваімі характарамі. Абедзве жыццярадасныя, добразычлівыя і спагадлівыя да людзей, з нейкім надзвычай развітым грамадзянскім пачуццём, з цікавасцю да ўсяго, што навокал адбываецца. І яшчэ ўражвала ўзаемная павага і любоў сясцёр, гатоўнасць дапамагчы, узяць на сябе чужы боль.

Міхаліна Антонаўна была самай малодшай у сям'і. Як і сястра Канстанцыя, яна пражыла доўгае жыццё, пакінуўшы па сабе светлую памяць у сэрцах усіх, хто яе ведаў.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*СПАДЧЫНА*

# ДРАЎЛЯНАЕ ДОЙЛІДСТВА Ў ТВОРАХ МАСТАКОЎ



**Троіцкая царква Маркава манастыра ў Віцебску. 1690—1691 гады.**

Рускі пісьменнік Мікалай Гогаль неяк сказаў, што архітэктура размаўляе тады, калі ўжо маўчаць і песні, і паданні. Каменныя муры могуць перажыць не адно стагоддзе, чаго нельга сказаць пра помнікі драўлянага дойлідства. Гістарычны лёс Беларусі не быў да іх літасцівы. Многія зніклі ў пажарах войнаў, знішчаны страціўшым пачуццё духоўнасці натоўпам у часы сацыяльных навальніц.

У аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта ёсць калекцыя акварэляў і замалёвак многіх помнікаў драўлянай архітэктуры Беларусі, зробленых мастакамі мінулага стагоддзя Трутневым, Струкавым, Петрашкевічам, Міняшам і іншымі. Сярод іх і помнікі, што не маюць аналогій. Траецкая і Ільінская цэрквы XVII стагоддзя Маркава кляштара ў Віцебску—славутыя ўзоры Віцебскай школы дойлідства. Крыжова-цэнтрычныя ў плане збудаванні імкнуцца ў вышыню, пераходзяць у стромкія шатры з адмысловымі макаўкамі. Выразнае аблічча прасякнута дынамізмам, узнёсласцю. І не дзіўна. Паглядзіце на «Чарцёж горада Віцебска 1664 года». Колькі там веж, у якіх згадваецца развіццё вертыкальных форм раннеславянскага драўлянага дойлідства.

У сярэдняй паласе і на поўдні Беларусі зрубы-чатырохсцены злучаліся па іншай, цэнтральна-восевай і восевай схемах. Бабінец, неф, алтар часцей завяршаліся двухсхільнай страхой. У Траецкай і Ільінскай цэрквах Маркава кляштара прысутнічалі галерэі, ганкі з навесам, характэрныя драўлянай культавай архітэктуры паўночна-ўсходняга і ўсходняга арэалаў Еўропы. Кампактнасць размяшчэння зрубаў — традыцыйная рыса народнага дойлідства рэгіёна (Паазер'е). Жылыя і гаспадарчыя пабудовы ў сялянскіх дварах часта знаходзіліся пад агульнай страхой. Абедзве царквы дайшлі да нас у акварэлях вядомага мастака XIX стагоддзя Івана Трутнева.

Нарадзіўся мастак у 1827 годзе ў павятовым горадзе Ліхвін Калужскай губерні ў сям'і прыгонных. Пачынаў адукацыю ў павятовым вучылішчы ў Перамышлі. За доўгія гады службы бацькі будучы мастак атрымлівае ад пана вольную і едзе ў Маскву. Тут Іван Трутнеў праходзіць курс навучання ў школе Строганава і ў 1850 годзе паступае ў Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу, у клас батальнага жывапісу. У 1855 годзе за карціну «Благаславенне сына ў апалчэнне» ўзнагароджваецца акадэмічным залатым медалём. Малады мастак пачынае ўсё больш захапляцца народнымі бытавымі сцэнамі. У 1860 годзе Трутнеў едзе за мяжу, працуе ў Германіі, Францыі, Бельгіі, Галандыі, Італіі і іншых краінах. З цікавасцю вывучае бытавы жывапіс еўрапейскіх мастакоў, але яму не падабаецца ідэалізацыя і знешняя лакіроўка народных сцэн. У выніку ён просіць праз чатыры гады датэрміновага вяртання на радзіму, каб апошні год пенсіёну прысвяціць вывучэнню народнага побыту. У 1865 годзе Трутнеў атрымлівае пасведчанне «для праезду па гарадах Расійскай імперыі». П. Траццякоў цаніў Івана Трутнева як прадстаўніка дэмакратычнага напрамку ў мастацтве. У 1866 годзе ў Вільні адкрываецца мастацка-вытворчая школа, і Трутнеў запрашаецца на пасаду яе дырэктара.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ДРАЎЛЯНАЕ ДОЙЛІДСТВА Ў ТВОРАХ МАСТАКОЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Па ініцыятыве апекуна Віленскай вучэбнай акругі І. Карнілава і этнографа П. Бацюшкава рыхтуецца да выдання альманах «Помнікі рускай даўніны ў заходніх губернях». У рабоце над ім Трутнеў прымае актыўны ўдзел. Паступова ў творчасць мастака ўваходзіць тэма Беларусі і Літвы. У 60-я гады мінулага стагоддзя мастак удзельнічае ў навуковых экспедыцыях па Паўночна-Заходняму краю. У другім выпуску альманаха друкуюцца шматлікія храмалітаграфіі, зробленыя з малюнкаў мастака. Малюючы помнікі, Трутнеў фіксуе і навакольнае асяроддзе: вуліцы і дамы, крамы, свірны, бытавыя сцэны, робіць гэта з вялікай назіральнасцю. Варта прыгадаць карціны «Літоўская пагранічная карчма», «На рынку ў Вільні» і іншыя. Памёр Іван Трутнеў у 1912 годзе.

Малюнкі помнікаў драўлянай архітэктуры Беларусі, выкананыя Трутневым, вызначаюцца глыбокім пачуццём прапорцый, канструкцыйнай будовы, пластычных і каляровых асаблівасцей. У гэтым іх вялікая каштоўнасць для гісторыка-архітэктурнага аналізу, рэстаўрацыі.

Вывучаючы захаванасць архітэктурных помнікаў Літвы і Беларусі, П. Бацюшкаў у 1866 годзе даручае мастаку Дзмітрыю Струкаву зрабіць неабходныя замалёўкі. Так была створана каштоўнейшая калекцыя малюнкаў помнікаў драўлянага дойлідства Беларусі, узораў дэкаратыўнага ўбрання мураваных пабудоў, тыпаў крыжоў, абкладаў абразоў і кніг, прадметаў царкоўнай маёмасці. Варта прыгадаць каляровы малюнак крыжа Ефрасінні Полацкай. Усяго ў бібліятэцы Вільнюскага універсітэта захоўваецца звыш двухсот малюнкаў мастака, прысвечаных помнікам архітэктуры і мастацтва Беларусі. Асаблівую каштоўнасць уяўляюць малюнкі драўляных цэркваў. Сярод іх простыя, нагадваючыя сялянскія хаты аднаі двухзрубныя цэрквы, як, напрыклад, святой Ганны з Крысава і Пятра і Паўла з Бубнава Слуцкага павета, характэрныя для Палесся трохзрубныя (Скарадная Мазырскага, Новая Вёска Бабруйскага паветаў). У іх бачны традыцыі народнай архітэктуры: развіццё кампазіцыі па аналогіі з лінейным (пагонным) тыпам двара, генезіс форм стрэх, уласцівы чатырохсхільным і пірамідальным стрэхам хат, клунь, гумнаў. Не засталося па-за ўвагай мастака і развіццё ў драўляным дойлідстве гатычных і рэнесансных форм, уласцівых двухвежавым культавым пабудовам (Лучнікі, Прылукі Мінскай губерні). Вялікую каштоўнасць уяўляюць замалёўкі Куцеінскага жаночага кляштара ў Оршы. Мастак трапна перадае сілуэтную будову ансамбля кляштара. Помнікі драўлянай архітэктуры Магілёўскай школы прадстаўлены ў малюнку царкваў Барыса і Глеба і Узнясення ў Магілёве. У іх бачны рысы, родная помнікам Аршанскай школы: вертыкальнае развіццё аб'ёмаў, спалучэнне двухсхільных і купальных перакрыццяў нефаў з яруснай будовай веж. Архітэктурныя рысы царквы Барыса і Глеба можна назіраць таксама і ў малюнках царквы з вёскі Раманава Слуцкага павета, Спаса-Праабражэнскай царквы XVIII стагоддзя з вёскі Барань з-пад Оршы. Прысутнасць гэтага тыпу культавай пабудовы ў розных рэгіёнах Беларусі вызначана шырынёй арэала распаўсюджання, які ахоплівае суседнія рэгіёны Расіі і Украіны.

Малюнкі помнікаў драўлянага манументальнага дойлідства Беларусі, зробленыя мастакам мінулага стагоддзя, адлюстроўваюць шэраг агульных і рэгіянальных асаблівасцей драўлянай архітэктуры ўсходніх славян, народаў Прыбалтыкі, Польшчы, яны даюць магчымасць вызначыць шэраг лакальных архітэктурна-будаўнічых школ Беларусі. Працы мастакоў XIX стагоддзя з'яўляюцца прыкладам актыўнага ўдзелу прагрэсіўных творчых сіл у вырашэнні праблемы захавання спадчыны народнай культуры.

**Аляксандр ЛАКАТКО,**
**кандыдат гістарычных навук.**



**Драўляны крыж на могілках у вёсцы Вілейка.**



**Знаходка была нечаканай. Трактар, на якім механізатар калгаса «Далёкае» Зігмунд Нядведзь араў калгаснае поле, раптам нібыта «спатыкнуўся». І на паверхню вывернула важкі чыгунны абломак. Так адбылося вяртанне ўзорыстага старажытнага звана, гісторыя якога пачалася ў ліцейцы маскоўскага заводчыка Фінляндскага ў 1888 годзе.**

**Звон вагой 20 пудоў і два фунты быў набыты часовым гаспадарча-будаўнічым камітэтам Мікалаеўскай царквы ў мястэчку Дунілавічы, што ў цяперашнім Пастаўскім раёне. Многія гады сваім голасам збіраў ён прыхаджан пад царкоўныя скляпенні. А ў трыццатыя гады звон пераехаў у мястэчка Опса на Браслаўшчыне. Моцны пажар, што здарыўся тут, пашкодзіў і званы. Тады і дамовіўся ксёндз Пётр Блажневіч аб куплі новага ў Дунілавічах. І пятага верасня 1935 года (дата выбіта на чыгуннай паверхні) мясцовы каваль Казімір Марэцкі з аднавяскоўцамі ўстанавіў звон на Опсаўскім касцёле Яна Хрысціцеля.**

**У 1943 годзе нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі здаць званы на пераплаўку. Два малыя давялося адвезці ў Глыбокае, а вялікі пад покрывам ночы знялі браты Казімір і Аляксандр Панятоўскія і Зігмунд Радкевіч, адвезлі да сядзібы Панятоўскіх і закапалі пад ліпай.**

**Праз год Чырвоная Армія выбіла акупантаў з беларускай зямлі, але, на жаль, не прынесла духоўнага вызвалення. Вера праследавалася, многія прыхаджане, у тым ліку і ксёндз Опсаўскага касцёла, у 1949 годзе былі арыштаваны НКУС. Паехалі ў Польшчу браты Панятоўскія. Але людзі помнілі пра звон і чакалі лепшых часоў.**

**Толькі калі ў 1988 годзе касцёл вярнулі вернікам, жыхары Медзюкоў і Опсы сталі шукаць звон. Але ўжо не было сядзібы Панятоўскіх, знікла старая ліпа—след звана згубіўся.**

**І вось амаль праз пяцьдзесят гадоў выпадак вярнуў звон у Опсу. На жаль, чыгунны твор ужо не загучыць, «як песня»: занадта сур'ёзныя пашкоджанні. Але звон стане святой рэліквіяй, якая будзе нагадваць аб недарэчных перапляценнях нашай гісторыі, аб высакародстве і невуцтве, аб лёсах людскіх.**

**НА ЗДЫМКУ: старшыня Касцёльнага камітэта Опсаўскага касцёла Яна Хрысціцеля Б. ЖОЙДЗЬ (злева) і прыхаджанін касцёла Г. БЕЙНЕР прыводзяць у парадак звон.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*СПОРТ*

## СЛАВАЙ НЕ ПАДЗЕЛІМСЯ?

Не за гарамі летнія Алімпійскія гульні, якія пройдуць у Барселоне. Чакаем мы іх з вялікай трывогай і надзеяй. Справа вось у чым: спорт не застаўся ў баку ад палітыкі. Пасля заявы некаторых рэспублік аб сваім суверэнітэце навісла рэальная пагроза выступленню зборнай СССР пад адзіным флагам.

Пагроза небеспадстаўная. Яшчэ з мінулага года адмовіліся выступаць на першынствах краіны баскетбалісты, футбалісты, гандбалісты Прыбалтыйскіх рэспублік, Грузіі.

У кожнай былой рэспубліцы былі створаны свае нацыянальныя Алімпійскія камітэты, якія звярнуліся ў МАК з просьбай дазволіць выступаць і на Гульнях, і на розных іншых спаборніцтвах асобнымі камандамі.

Інтарэсы краіны праігнаравалі многія вядомыя спартсмены. Назавём хаця б заяву чэмпіёна свету па шахматах Гары Каспарава. У цэнтральным друку шырока каменціравалася яго інтэрв'ю спартыўнаму журналісту. Чэмпіён свету ў катэгарычнай форме заявіў, што ніколі не будзе выступаць пад флагам СССР.

Не захацелі застацца ў баку ад палітызацыі і спартыўныя арганізацыі Беларусі. Раздаюцца галасы (палітыкаў, спартыўных функцыянераў, некаторых балельшчыкаў), што клічуць аддзяліцца ад Саюза, выступаць на ўсіх спаборніцтвах асобнай камандай. Прыводзяцца часам даволі важкія аргументы: пры камплектаванні зборных Цэнтр (г. зн. Спорткамітэт СССР) не заўжды кіраваўся спартыўнымі прынцыпамі, нават чэмпіёны і рэкардсмены свету не заўсёды траплялі ў галоўныя каманды краіны.

Яшчэ адзін аргумент. Наша рэспубліка можа на тую ж Алімпіяду выставіць каманду, якая не ўступіць многім краінам свету. І не трэба дзяліцца славаю з цэлым Саюзам. І тут ёсць нешта слушнае: хоць сёння гімнастка Святлана Багінская, цяжкаатлеты Аляксандр Курловіч і Леанід Тараненка, гандбалісты, стралок Ірына Шылава і многія, многія гатовы прывезці «золата» з любых спаборніцтваў.

Быць ці не быць такой камандзе на летніх Гульнях у Барселоне, будуць вырашаць, нам здаецца, на гэты раз не палітыкі ад спорту, а самі спартсмены. НАК Беларусі неўзабаве выкажацца на гэты конт. Адказ мы атрымаем хутка: у Маскве адкрыецца генеральнае пасяджэнне МАК краіны, на якім суверэнныя рэспублікі і вырашаць лёс спартыўнага руху на будучыню.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Адшукваецца **СКРОБАТ Пётр Пятровіч.** Ён нарадзіўся ў 1888 годзе, выехаў у Канаду ў 1927 годзе. Жыў у горадзе Бруквілі, меў сям'ю з шасці чалавек. Сваякоў **Пятра СКРОБАТА** (дзяцей, унукаў) просяць адгукнуцца па адрасу:

**225215, Брэсцкая вобл., Бярозаўскі р-н, г. Белаазёрск, вул. Энергетыкаў, д. 1, кв. 4, ТРУСУ Сяргею Іванавічу.**



**НА ЗДЫМКУ: Пётр СКРОБАТ.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

## НАШ АДРАС:

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
Індэкс 63854. Заказ № 1727.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12